«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info, в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 74 (4634)**

28 верасня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

РУБАМ!

## Куды глядзяць беларускія пагранічнікі?


Польскія сілы бяспекі ахоўваюць мігрантаў у прыгранічнай зоне з Беларуссю. Верасень 2021 года. Фота АР.

Беларускае тэлеграмнае агенцтва (адзін з інфармацыйных рупараў улад) учора паведаміла: толькі за тыдзень зафіксаваны спробы выцiснуць у Беларусь з Еўрапейскага Саюза больш за 150 груп мігрантаў. Паводле звестак старшыні Дзяржаўнага пагранічнага камітэта **Анатоля Лапо**, у агульнай колькасці гэта *«недзе каля 2,3 тысячы чалавек»*.

Можаце ўявіць, што творыцца на беларускай мяжы, калі толькі за адзін тыдзень праз яе незаконна «прашмыгнула» столькі мігрантаў?! Ці ж не ў прахадны двор яна ператварылася? І ці трэба здзіўляцца, што тыя ж польскія, літоўскія ці латвійскія памежнікі спыняюць мігрантаў, якія з'яўляюцца з нашага боку, і выціскаюць назад у Беларусь?

Канфлікт знікне, калі нашы пагранічнікі паставяць заслон на шляху мігрантаў. А калі гэтага няма, то і ўзнікаюць пытанні: куды глядзяць беларускія пагранічнікі, чаму яны не займаюцца стрыманнем тых, хто незаконна парушае межы нашай краіны?

**Пётр КРАЎЦОЎ.**

ПОЗДРАВЛЯЕМ!




## Мария Колесникова – лауреат премии имени Вацлава Гавела

Это престижная премия, которая вручается за выдающиеся заслуги в защите прав человека.

**Мария Колесникова** получила награду за то, что рискнула своей безопасностью ради более высокой цели – свободы Беларуси. Награду вручили на сессии ПАСЕ в Страсбурге. Вместо Маши премию получила ее сестра **Татьяна Хомич**.

– Эта награда – прямой сигнал для нас, белорусов: международное демократическое сообщество поддерживает нас, и мы находимся на правильном пути. С другой стороны, это прямой сигнал белорусским властям: международное сообщество никогда не смирится с массовой жестокостью и нарушением прав человека в Беларуси.

IX ПАЗІЦЫЯ

## Кожны дзясяты можа мець дачыненне да тэрарызму

*«Са жніўня было 9400 спроб нелегальна перасекчы беларуска-польскую мяжу»*, – пра гэта заявіў на ўчарашняй прэс-канферэнцыі кіраўнік Міністэрства ўнутраных спраў **Марыюш Камінькі**. Паводле слоў міністра, 8200 спроб былі спыненыя, 1200 чалавек затрыманы. У большасці з іх няма дакументаў, кожны дзясяты, як сцвярджаецца, можа мець дачыненне да тэрарыстычных структур.

На дадзены момант польскія спецслужбы праверылі 200 мігрантаў, 50 з іх бралі ўдзел у баявых дзеяннях.

Паводле лічбаў МУС Польшчы можна судзіць, колькі нелегальных мігрантаў можа быць на тэрыторыі Беларусі. Таксама яны спрабуюць трапіць у Еўрасаюз праз Літву і Латвію.

СТАЛА ВЯДОМА...

## Грамадзянку Швейцарыі Наталлю Хершэ пераводзяць з калоніі ў турму

На мінулым тыдні суд Чыгуначнага раёна Гомеля разгледзеў справу «Аб пераводзе ў папраўчую ўстанову іншага тыпу і змяненні ўмоў рэжыму» для палітзняволенай грамадзянкі Швейцарыі **Наталлі Хершэ**. Паводле рашэння суддзі **Мікалая Крупадзёрава**, з калоніі яе павінны перавесці ў турму, дзе горшыя ўмовы ўтрымання.

Наталлю Хершэ затрымалі 19 верасня 2020 года пасля жаночага маршу. У снежні яна атрымала 2,5 года калоніі агульнага рэжыму за сарваную з супрацоўніка АМАПа балаклаву.

За перыяд зняволення Хершэ пабывала ў штрафным ізалятары (ШЫЗА) і памяшканні камернага тыпу (ПКТ) за адмову шыць форму для сілавікоў. І вось яе чакае ўжо турма, дзе камерная сістэма. Гэта значыць, што вязняў трымаюць у закрытых памяшканнях на працягу ўсяго дня з невялікім (гадзінным) выхадам на прагулку ў турэмны дворык.


Наталля Хершэ на лаве падсудных. Мінск, 7 снежня 2020 года.

З-ЗА КРАТАЎ

## Алесь Бяляцкі правраў паштовую блакаду

*Паўтара месяца знаходзяцца за кратамі праваабаронцы* ***Алесь Бяляцкі, Валянцін Стэфановіч*** *і* ***Уладзімір Лабковіч.***

Пасля ператрусаў, допытаў і некалькіх сутак у ізалятары часовага ўтрымання праваабаронцаў перавялі ў СІЗА на Валадарскага, дзе яны знаходзяцца і зараз.

– У нашай перапісцы адбыўся пэўны прарыў, – паведаміла «Народнай Волі» **Наталля Пінчук**, жонка Алеся Бяляцкага. – Ад мужа прыйшоў ліст, з якога бачна, што ён таксама атрымаў маё паштовае пасланне. Усе астатнія мае лісты, відаць, блакіраваліся, бо рэакцыі на іх не было. Я ўжо ўвогуле згубіла надзею, што Алесь можа ад мяне нешта атрымаць, таму выкарыстала магчымасць даслаць яму ліст праз інтэрнэт-пошту. І гэта спрацавала. Зараз Алесь дакладна напісаў, што атрымаў ліст, і ў звязку з гэтым былі яго пэўныя думкі і развагі.



**– Калі не сакрэт, пра што піша вам Алесь?**

– Піша пра нейкія агульныя бытавыя рэчы. Ён не першы раз знаходзіцца за кратамі, таму не горш за турэмных цэнзараў ведае, што можна пісаць, а што не варта.

Як быццам у яго ўсё нармальна, на здароўе не скардзіцца, мае магчымасць кнігі чытаць. Але хто ведае, як там насамрэч…

**– Пра справу нічога не вядома?**

– Адвакаты знаходзяцца пад падпіскай аб неразгалошванні, таму не могуць абсалютна нічога сказаць.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

РЭПРЭСІІ

## За краты кінулі як мінімум 13 рабочых

Па Беларусі пракацілася хваля затрыманняў завадчан і страйкамаўцаў з «Гродна Азота», Беларускага металургічнага завода, Беларускай чыгункі і «Нафтана».

Некалькі чалавек з «Гродна Азота» выпусцілі, але 13 чалавек затрымалі і змясцілі ў СІЗА КДБ і гомельскі СІЗА №3.

Папярэдне вядома, што ўсім ставіцца ў віну здзяйсненне дзеянняў, прадугледжаных арт.356 Крымінальнага кодэкса («здрада дзяржаве»). Таксама па АНТ паведамілі пра крымінальную справу за «стварэнне экстрэмісцкага фарміравання» (арт.361-1 КК). У адносінах да некаторых рабочых ідзе гаворка таксама пра іншыя артыкулы, напрыклад арт.357 («змова або іншыя дзеянні, здзейсненыя з мэтай захопу дзяржаўнай улады»).

Вось спіс затрыманых рабочых:

**Сяргей ШЭЛЕСТ**, былы апаратчык цэха «Аміяк-3», СІЗА КДБ;

**Андрэй ПАГЕРЫЛА**, былы слесар-рамонтнік цэха «Аміяк-3», СІЗА КДБ;

**Уладзімір ЖУРАЎКА**, былы аператар ДПУ цэха «Аміяк-3», СІЗА КДБ;

**Андрэй БАШАН**, работнік цэха «Аміяк-3», СІЗА КДБ;

**Валянцін ЦЕРАНЕВІЧ**, памочнік майстра на заводзе «Хімвалакно» (які ўваходзіць у склад «Гродна Азота»), намеснік старшыні Беларускага незалежнага прафсаюза «Гродна Азота»;

**Вадзім ЯФІМЕНКА**, супрацоўнік «Хімвалакна»;

**Дзмітрый ЕЛІСЕЕЎ**, супрацоўнік БМЗ, гомельскі СІЗА №3;

**Святлана ЗЫЛЬ**, былая супрацоўніца БМЗ, гомельскі СІЗА №3;

**Аляксандр ГАШНІКАЎ**, супрацоўнік БМЗ, СІЗА КДБ;

**Сяргей ДЗЮБА**, работнік Беларускай чыгункі, СІЗА КДБ;

**Максім САКОВІЧ**, старшы энергадыспетчар Беларускай чыгункі, СІЗА КДБ;

**Ганна АБЛАБ**, работніца Беларускай чыгункі, СІЗА КДБ;

**Аляксандр КАПШУЛЯ**, былы юрысконсульт ААТ «Нафтан», завода «Палімір», СІЗА КДБ.

Праваабаронцы зазначаюць, што прыведзены спіс можа быць няпоўным. Магчыма, пакуль не вядома пра іншыя затрыманні ці вызваленні.

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

### Валерый КАРБАЛЕВІЧ, палітолаг

## Шпіёны на прадпрыемствах



Ну вось, дачакаліся. Захад завербаваў на беларускіх прадпрыемствах агентаў, якія перадаюць шпіёнскую інфармацыю. Хутка пачнецца пошук шпіёнаў у калгасах, якія па заданні заходніх разведак атручваюць калгасную жывёлу. Усё, як у 1930-я гады.

Ці ёсць у гэтай кампаніі затрыманняў актывістаў рабочага руху рацыянальны складнік?

Магчыма, што ўлады напужаны заклікамі некаторых замежных беларускіх арганізацый да страйку. Ва ўмовах адсутнасці зваротнай сувязі з грамадствам яны дрэнна разумеюць, што адбываецца ў краіне, у прыватнасці на прадпрыемствах. А ў страху вочы вялікія. Таму рэакцыя на заклікі да страйку аказалася стандартнай: хапаць усіх неблаганадзейных. А заадно пад выглядам выкарчоўвання шпіёнскіх гнёздаў дабіць незалежныя прафсаюзы.

НА СУВЯЗІ – БЕРЛІН

## Сацыял-дэмакраты з невялікай перавагай атрымалі перамогу над хрысціянскімі дэмакратамі

**Папярэднія вынікі выбараў-2021 у параўнанні з 2017 годам**

| Партыя | Працэнт галасоў | | Колькасць мандатаў | |
|---|---|---|---|---|
| | *2017* | *2021* | *2017* | *2021* |
| ХДС/ХСС | 32,9 | 24,1 | 246 | 196 |
| СДПГ | 20,5 | 25,7 | 153 | 206 |
| Альтэрнатыва | 12,6 | 10,3 | 94 | 83 |
| СвДП | 10,7 | 11,5 | 80 | 92 |
| Левая партыя | 9,2 | 4,9 | 69 | 39 |
| Зялёныя | 8,9 | 14,8 | 67 | 118 |
| Іншыя | 5,0 | 8,7 | – | 1 (SSW) |

У Нямеччыне змешаная выбарчая сістэма: дэпутатаў выбіраюць па партыйных спісах і ў акругах.

### Вынікі выбараў у акругах

СДПГ – 123
ХДС – 95
ХСС (у Баварыі) – 45
Альтэрнатыва – 17
Зялёныя – 16
Левыя – 3

**Тлумачэнне.** Левая партыя па партыйным спісе не адолела 5-працэнтны парог, аднак яна ўзяла тры мандаты ў акругах, і гэта дазваляе ёй атрымаць 39 крэслаў у Бундэстагу.

SSW, якая атрымала 1 мандат, – гэта Südschleswigsche Verein (па-дацку: Sydslesvigsk Forening), Паўднёвашлезвігскае аб'яднанне, арганізацыя дацкай меншасці ў Паўднёвым Шлезвігу.

І маленькі кур'ёз. Кандыдат ад Зялёных перамог у роднай акрузе **Арміна Ляшэта**, былога кандыдата ХДС на пасаду канцлера. Ужо раздаюцца галасы за адстаўку Ляшэта з пасады старшыні ХДС, а **Маркуса Зёдэра** – з пасады старшыні баварскага Хрысціянска-сацыяльнага саюза. Але не ўсё так кепска: сацыял-дэмакраты не атрымалі рашучай перамогі, таму магчыма, што яны застануцца без партфеля канцлера.

### Магчымыя кааліцыі

Разглядаюць дзве магчымыя ўрадавыя кааліцыі: чорна-зялёна-жоўтую (ХДС/ХСС, Зялёныя, Свабодная дэмакратычная партыя) або чырвона-зялёна-жоўтую (СДПГ, Зялёныя, СвДП). Як жартуюць у Нямеччыне, караля робяць зялёныя і лібералы.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ, сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада).**

ШТО ХВАЛЮЕ...

# ЧАРГОВАЯ ХВАЛЯ ПАНДЭМІІ НАКРЫВАЕ БЕЛАРУСЬ

ПАЗІЦЫЯ

## У медыцыне не павінна быць хлусні

*Пра віцебскага рэаніматолага **Уладзіміра Мартава** цяпер, здаецца, ведае ўся Беларусь. Ён, будучы загадчыкам аддзялення бальніцы, адкрыта стаў гаварыць пра цяжкую сітуацыю, якая склалася ў нашай краіне. Менавіта ад яго грамадскасць даведалася пра аварыю на кіслароднай станцыі гарадской клінікі.*



З-за сваёй прынцыповай пазіцыі Уладзімір згубіў пасаду, з ім не працягнулі кантракт. Але ён не здаўся, не стаў поўзаць на каленях перад высокім начальствам і прасіць, каб яго пакінулі на рабоце ў бальніцы. Пакуль ён беспрацоўны, жыве ў асноўным на лецішчы, спрабуе апісаць падзеі, якія адбываліся ў яго на вачах у апошнія паўтара-два гады.

У адным з нядаўніх інтэрв'ю Уладзімір Мартаў на пытанне **«А ці верыце вы ў афіцыйныя дадзеныя па кавіду, якія публікуюцца штодня?»** адказаў так:

*– Не, гэта нават несур'ёзна абмяркоўваць. Гэта не мае дачынення да рэальнасці. Я не магу казаць пра сённяшні дзень, але падчас маёй працы былі эпізоды, калі ў нашай бальніцы памерлі 7 чалавек за адно дзяжурства. І ў калег у суседняй бальніцы таксама памерлі сямёра. І гэта толькі Віцебск! А афіцыйная статыстыка мне кажа: памерлі 7 чалавек па ўсёй Беларусі. Выглядае проста смешна.*

*Другі момант яшчэ больш цікавы. Калі падчас першай хвалі захварэлі мае родныя і да іх прыходзілі з паліклінікі, то было забаронена браць мазкі амбулаторна. Пасля, калі прызнавалі, што ёсць ачаг, прыходзілі ўжо экіпіраваныя, рабілі мазкі толькі тады.*

*А калі не бярэш мазок – няма выпадку кавіду. Можна не ўлічваць і можна не плаціць* (медработнікам. – **Рэд.**).

Што і казаць, мае Уладзімір Мартаў рацыю, калі з трывогай выказвае свае думкі. Дарэчы, «Народная Воля» не аднойчы ўзнімала пытанне наконт таго, якую сумніўную статыстыку, звязаную з каранавірусам, падае Міністэрства аховы здароўя. Так, паводле меркаванняў многіх беларусаў, ашуканства ідзе на дзяржаўным узроўні. Не трэба хваробу заганяць усё глыбей і глыбей, ці не лепш абнародаваць не хлуслівую, а праўдзівую інфармацыю. У цывілізаваных еўрапейскіх краінах кожны дзень па тэлебачанні транслююць звесткі аб захворванні на каранавірус па кожным рэгіёне, кожным горадзе. Такая падрабязная інфармацыя дае ўяўленне, дзе небяспека заражэння большая, а дзе меншая. У адпаведнасці з рэальнай інфармацыяй медыцынскія службы, дзяржаўныя ўстановы і прымаюць тыя ці іншыя захады да выпраўлення сітуацыі.

У апошнія дні чарговая хваля пандэміі нагадала пра сябе. І вось ужо вядома, што за суткі ад каранавіруса ў нашай краіне паміраюць не 7 і не 9 чалавек, а, лічы, амаль у два разы больш. І высокім чыноўнікам не трэба балюча рэагаваць на крытыку з боку такіх прынцыповых прафесіяналаў, як Уладзімір Мартаў, а, наадварот, уключаць іх у цяжкую работу па спыненні страшнай пандэміі.

**Станіслаў КУЧЫНСКІ.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## Как получить «сверхчеловеческий» иммунитет

Ученые из Великобритании назвали способ получения «сверхчеловеческого» иммунитета. Они подчеркнули, что после перенесенного коронавируса следует вакцинироваться, тогда защита будет намного сильнее, чем после прививки или болезни по отдельности, пишет *The Telegraph*.

Исследователи выяснили, что COVID-19 в комплексе с последующими двумя дозами вакцин Pfizer или Moderna дают организму огромное количество «гибких» антител, которые в дальнейшем реагируют даже на мутировавшие варианты.

Вирусолог из Рокфеллеровского университета **Пол Бьениас** утверждает, что антитела у испытуемых с гибридным иммунитетом могут нейтрализовать все шесть штаммов коронавируса, в том числе дельту и бету. Также защита организма побеждает искусственно созданный в лаборатории вирус, против которого бессилен иммунитет только переболевших или только привитых.

*«Исходя из этих выводов, можно сказать, что иммунная система со временем получит преимущество перед вирусом. Если нам повезет, со временем SARS-CoV-2 попадет в категорию вирусов, из-за которых появляется лишь легкая простуда»*, – заключил ученый.

СЕНСАЦИЯ

## В Израиле создали лекарство, способное вылечить от COVID-19 в течение трех дней

Группа израильских ученых заявила, что лекарство оказывает прямое противовирусное действие на коронавирус. По их словам, оно может вылечить пациента всего за несколько дней.

Об этом пишет *The Jerusalem Post*.

Компания Code Pharma, штаб-квартира которой находится в Нидерландах, но имеет свой отдел исследований и разработок в Израиле, недавно завершила первую фазу испытаний препарата «Кодивир».

Вторая фаза испытаний, в которой примут участие около 150 пациентов и которое, как ожидается, начнется в следующем месяце, пройдет в Испании, Бразилии и Южной Африке. По словам генерального директора Code Pharma **Зайона Айни**, цель состоит в том, чтобы завершить испытание в течение примерно трех-шести месяцев, а затем подать заявку на разрешение применять препарат в экстренных случаях.

Во время первой фазы в исследовании приняли участие двенадцать пациентов в возрасте от 18 до 60 лет с коронавирусом легкой и средней степени тяжести. Пациенты получали по две инъекции в день в течение 10 дней.

Профессор **Шломо Мааян**, руководитель отделения инфекционных заболеваний в медицинском центре «Барзилай», сказал, что у пяти пациентов во время лечения наблюдалось очень сильное снижение вирусной нагрузки. «Кодивир» значительно подавлял репликацию вируса у всех пациентов. Эффект был замечен уже через три дня после начала лечения.

«Кодивир» основан на коротком пептиде из 16 аминокислот, полученном из интегразы ВИЧ-1. Впервые его обнаружили исследователи из Еврейского университета в Иерусалиме, которые до сих пор работают в компании.

АКТУАЛЬНЫЙ ВОПРОС

## Можно ли заразиться COVID-19 через наличные деньги?

Как долго коронавирусы остаются заразными на банкнотах и монетах? Можно ли заразиться при контакте с наличными деньгами? Эксперты Европейского центрального банка в сотрудничестве с отделом медицинской и молекулярной вирусологии Рурского университета Бохума хотели прояснить этот вопрос, пишет *healthinfo.ua*.

Исследователи во главе с профессором **Эйке Штайнманном** и доктором **Даниэлем Тодтом** разработали метод специально для проверки того, сколько инфекционных вирусных частиц может быть перенесено из наличных денег на кожу в реальных условиях.

**Вывод:** в реальных условиях риск заразиться SARS-CoV-2 через контакт с деньгами очень низок. Исследование опубликовано в журнале *iSciencec* 26 июля 2021 года.

### Вирусы на банкнотах и монетах

Чтобы выяснить, как долго SARS-CoV-2 сохраняется на монетах и банкнотах, исследователи обрабатывали различные монеты и банкноты растворами вирусов разной концентрации и в течение нескольких дней наблюдали, как долго инфекционный вирус еще можно было обнаружить. Поверхность из нержавеющей стали в каждом случае служила контролем.

Результаты обнадеживают: хотя инфекционный вирус всё еще присутствовал на поверхности из нержавеющей стали через семь дней, на банкноте 10 евро ему потребовалось всего три дня, чтобы полностью исчезнуть. Для монет номиналом 10 центов, 1 евро и 5 центов через шесть дней, два дня и один час соответственно не было обнаружено вируса. «Быстрое исчезновение на 5-центовой монете обусловлено тем, что она сделана из меди, на которую вирусы, как известно, менее устойчивы», – объясняет **Дэниел Тодт.**

### Заражение через аэрозоли или капли

Это наблюдение согласуется с результатами других исследований, которые показывают, что в подавляющем большинстве случаев заражение происходит через аэрозоли или капли. Инфекции мазка через поверхность практически отсутствуют.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

## Бураціна замест Шушкевіча

З усіх школьных падручнікаў найбольш не шанцуе падручнікам па гісторыі Беларусі – іх ледзь не штогод перапісваюць у адпаведнасці з найноўшымі палітычнымі ўстаноўкамі. А яны змяняюцца, як карты ў руках шулера. То афіцыйны Мінск з Еўропай шматвектарна сябруе, то ледзь не абвяшчае вайну калектыўнаму Захаду. То ўлада лічыць БНР паўнапраўнай папярэдніцай БССР і РБ, то залічвае бээнэраўскі сцяг у экстрэмісцкія сімвалы. То яна ў Курапатах помнік ахвярам сталінскага тэрору ставіць, то раптам збіраецца паставіць помнік Сталіну…

І ўсё гэта ў той ці іншай меры павінна знайсці сваё адлюстраванне ў тых самых падручніках. З гэтым ледзь спраўляюцца выбраныя Міністэрствам адукацыі гісторыкі, даводзіцца арганізоўваць цэлыя аўтарскія брыгады. Вось і выдадзены сёлета падручнік па гісторыі для 11 класа пісалі ажно шасцёра – **Наталля Барабаш**, **Аляксандр Корзюк**, **Віталь Ёцюс**, **Павел Мацюш** і **Андрэй Салаўянаў**. А вядома – дзе нянек многа, там дзіця бязнога.

Адразу кідаецца ў вочы, што новы падручнік мае на мэце надзённую з гледзішча ўлады задачу – дыскрэдытаваць у вачах школьнікаў бел-чырвона-белы сцяг і лозунг «Жыве Беларусь!». Адкрывае адзінаццацікласнік, напрыклад, раздзел пра вайну і са здзіўленнем даведваецца, што лозунг «Жыве Беларусь!» – гэта аналаг нацысцкага вітання «Хайль Гітлер!». Аналаг – ні больш ні менш! Няўжо не разумеюць аўтары, што гэта сцвярджэнне, з якога боку – лінгвістычнага ці гістарычнага – ні зірні, поўная бязглуздзіца? Гэткаму «аналагу» радуецца хіба сам фюрэр-людаед, зігуючы чарцям з кіпячай смалы ў пекле. Як не можа не радавацца і таму, што ў памятным для яго Беларусландзе ў народных школах (як пішацца ў падручніку) дзеці, аказваецца, вывучалі яго біяграфію.

Помніцца, я спецыяльна апытваў трох знаёмых навукоўцаў, якія вучыліся ў такіх школах, – члена-карэспандэнта НАН Беларусі **Алега Лойку**, доктара філалагічных навук **Арсеня Ліса** і кандыдата філасофіі **Міхаіла Іоську** (іх сведчанні апублікаваны ў «Народнай Волі» за 3 верасня 2019 года). Ніякіх біяграфій Гітлера яны не вывучалі! Пра тое ж піша гісторык **Юрый Туронак** у сваёй аўтарытэтнай працы «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». А падручнік даводзіць: вывучалі. Тут ужо і Гебельс у суседнім катле цешыцца: ёсць каму і ў XXI стагоддзі міфы пра тысячагадовы Рэйх сачыняць.

Далей аўтары падручніка на поўным сур'ёзе даводзяць, што бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня» былі неад'емнымі атрыбутамі пры знішчэнні яўрэяў у гета і пры спальванні беларускіх вёсак. Такой бяды, што гісторыя Халакосту (а яна даўно напісана) такіх фактаў не фіксуе. Такой бяды, што не знойдзена ніводнага (ніводнага!) сведчання пра знішчэнне нашых незлічоных хатыняў пад сцягам, пад якім прыносіў прысягу першы прэзідэнт Беларусі. Не знойдзена ні ў архівах, ні ў тых гімалаях літаратуры пра Вялікую Айчынную вайну, якія ёсць у нашых бібліятэках. Дык на чым аўтары падручніка грунтуюць сваё галаслоўнае сцвярджэнне? І Мінадукацыі хоча, каб гэтыя сцвярджэнні старшакласнікі прынялі на веру?

А як ім прыняць на веру адсутнасць у падручніку звестак аб ГУЛАГу? Яго што, не было ў СССР? Вось у Заходняй Беларусі пры паляках, як сцвярджаюць аўтары, дзейнічалі ажно 19 турмаў, а «архіпелаг ГУЛАГ», праз які прайшлі мільёны, як выглядае, прыдумаў Салжаніцын. Палітычныя рэпрэсіі ў падручніку, праўда, згадваюцца, але аўтары пішуць пра той час так, нібы на іх ужо кінуў цень будучы помнік генералісімусу: *«Руководство Компартии во главе с В.И.Сталиным взяло курс на форсированную индустриализацию промышленности и коллективизацию сельского хозяйства. Это потребовало мобилизации усилий населения всей страны и абсолютной поддержки государственной политики. Развернулась борьба с противниками политического курса. Среди репрессированных были те, кто вел контрреволюционную деятельность, занимался вредительством, участвовал в антисоветских восстаниях»*. Фармулёўкі – як з перадавіцы «Праўды» ўзору 1937 года. Ці з нядобрай памяці «Кароткага курса ВКП(Б)».

А як старшакласнікам ставіцца да фармулёўкі, што *«распад СССР – найбуйнейшая геапалітычная катастрофа XX стагоддзя»*? Разважаючы лагічна, тады і з'яўленне на яго месцы 15 незалежных дзяржаў – таксама катастрофа. У тым ліку і з'яўленне Рэспублікі Беларусь. Ну проста самаедства нейкае. І на такім самаеднапалітычным вінегрэце Мінадукацыі хоча выгадаваць патрыётаў Беларусі? Улічыўшы яшчэ і той факт, што гісторыю Беларусі беларускія школьнікі (нават у беларускамоўных школах!) вымушаны вывучаць па-руску.

За гэта – асаблівы «дзякуй» міністру адукацыі **Ігару Карпенку**. Нават у часы Савецкага Саюза, калі ўсім кіравала любімая ім камуністычная партыя, да такой непрыхаванай русіфікацыі школьнай адукацыі не даходзіла. Напрыклад, аўтар гэтых радкоў вывучаў гісторыю Беларусі па падручніку, адным з аўтараў якога быў сумна вядомы Лаўрэнцій Абэцэдарскі. Фальсіфікатар яшчэ той. Асветніцу Еўфрасінню Полацкую называў не іначай як цемрашалкай. Але падручнік быў на беларускай мове.

Вывучаць гісторыю Беларусі па-руску – гэта як вывучаць беларускую літаратуру ў перакладах. Паспрабуйце пачытаць «Новую зямлю» ці «Бандароўну» па-руску – ні смаку, ні ўражання, ні суперажывання. Эрзац нейкі. Так і з гісторыяй. Увесь патрыятычны складнік, закладзены ў сам прадмет, размываецца чужамоўем і зводзіцца на нішто.

А як юным чытачам «Истории Беларуси» для 11 класа ўцяміць, хто быў першым кіраўніком незалежнай Беларусі? Пра **Станіслава Шушкевіча** ў падручніку – ні слова. У адпаведным раздзеле адразу – два партрэты Лукашэнкі. Дык хто ад імя Беларусі Віскулёўскія пагадненні падпісаў – ён? Ці рагаты белавежскі зубр? Сеў за стол з Ельцыным і Краўчуком і падмахнуў капытом...

Кажучы на мове падручніка, *вопиюще* адсутнічае ў ім не толькі Шушкевіч. Скажам, няма там першага беларускага лаўрэата Нобелеўскай прэміі **Святланы Алексіевіч**. Увогуле, у раздзеле «Сучасная літаратура» не названа ніводнага імя! Мастакоў на суседняй старонцы – цэлы ўзвод, а пісьменнікаў – няма. Вымерлі, як маманты.

Дарэчы, і з пісьменнікамі ранейшых эпох у падручніку – яўны перакос. Партрэтна прысутнічае Пятрусь Броўка, але няма Васіля Быкава. Ёсць Цётка, а адсутнічае Якуб Колас.

А найбольш дзіўна прадстаўлена беларускае кіно. Вы думаеце – кадрамі з пташукоўскага «Знаку бяды» ці тураўскіх «Людзей на балоце»? Зусім не. Кадрам з «Прыгодаў Бураціна»! Галоўны беларускі кінагерой – Бураціна! Брава, аўтары!

Ваш падручнік яшчэ дапрацоўваць і дапрацоўваць, а ён выдадзены накладам ажно 112.000 асобнікаў і адпраўлены ў школы. Гэта ж колькі бюджэтных грошай зглумлена!..

Ідэйны натхняльнік новага падручніка **Ігар Марзалюк** нядаўна на старонках «СБ» расхваліў яго да нябёс і нечакана падагульніў: *«В том, что минимальное число школьников и студентов было на улицах в те дни* (маецца на ўвазе жнівень 2020-га – М.С.) *– это заслуга в том числе и гуманитарного образования Беларуси»*.

Тут ён відавочна даў маху. Большую частку масавых пратэстных шэсцяў складала якраз моладзь, якой абрыдла жыць у штодзённай афіцыйнай хлусні. На жаль, новы падручнік гісторыі выплюхвае на галовы школьнікаў яе дадатковую порцыю. Вынік прадугледзець нескладана…

**Міхась СКОБЛА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
28 ВЕРАСНЯ 2021 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Долларовое бегство

Белорусы продолжают массово опустошать валютные счета в банках. За год с депозитов вынесли не менее 2 миллиардов долларов в эквиваленте. Масштабный исход из банковской системы связывают с политическим и экономическим кризисом, толчок которому дали события августа прошлого года, вызвавшие недоверие вкладчиков к любым государственным институтам. Но Нацбанк надеялся, что ситуация вскоре стабилизируется. Не получилось. С начала 2021-го за восемь месяцев валютные вклады физических лиц в банковской системе сократились еще на 13%, или на 764,8 миллиона долларов, в том числе на срочных депозитах – на 745 миллионов, или на 16,1%. В срочном секторе общая сумма депозитов составляет 3,9 миллиарда долларов, тогда как 6 лет назад было 7,8 миллиарда.

Не доверяя горемычному белорусскому рублю, который пережил столько инфляционных всплесков и девальвационных обвалов, белорусы, вкладывая деньги в банки, традиционно отдавали предпочтение валюте. Пиковая доля валютных сбережений сложилась в конце 1998 года – 87%. Понятно, что Нацбанк стал всё усиленнее проводить политику дедолларизации: надо было как-то отвадить соотечественников от нездорового интереса к чужой валюте. Главный регулятор «втопил в пол» депозитные ставки по срочным вкладам. По безотзывным долгосрочным вкладам они достигали максимум 2–2,5% годовых на фоне растущих ставок по рублевым депозитам, которые стали заведомо значительно выгоднее. Народ недоумевал: почему государство занимает на еврорынке в виде облигаций деньги под 6–7% годовых, то есть в разы дороже, чем у своих граждан? Но лед тронулся. В банках уже находилось не 3/4 валютных вкладов от физических лиц, как раньше, а 2/3 к 1/3 рублевых. Ведь в нормальной экономике большая часть в денежном обращении должна приходиться на национальную валюту. А в Беларуси более 60% денежной массы приходилось на валютную составляющую.

Но нет худа без добра. Доллар, с которым 20 лет неустанно боролся Нацбанк, стал сдаваться. В августе текущего года удельный вес депозитов населения в банковской системе снизился до 58%. Сравните с 87% в 1998 году. Прогресс девалютизации налицо. Только дедолларизация произошла чисто по-белорусски: нет валюты – нет проблемы. Все, или почти все, валютные миллиарды, которые уплыли из банковской системы, осели на руках у населения. Оно не соблазнилось даже сверхдоходными рублевыми вкладами. Как показывает статистика, с начала года не растут и рублевые депозиты физических лиц. Разве что за счет начисляемых процентов. Следовательно, валюта, осевшая, как юморит народ, в банках стеклянных, в чулках и под матрасом, не работает на экономику. Не работает, прежде всего, в виде валютных кредитов, в которых остро нуждаются предприятия. Кстати, примерно так же вели себя с валютой в банках и вкладчики – юридические лица.

Несмотря на жесткую денежно-кредитную политику Нацбанка, который ограничивает рублевую массу в обращении и стабилизировал тем самым валютный курс белорусского рубля, деньги что в валюте, что в рублях люди по большому счету не возвращают в банки, надо понимать, по принципиальным соображениям. Естественно, чтобы как-то вернуть валютных вкладчиков в банки, главный регулятор стал менять свою депозитную политику. Концепция изменилась диаметрально – теперь банкам очень нужна валюта. Нацбанк отменил ограничения на рост валютных вкладов, и депозитные ставки начали интенсивно расти. С мизерных 0,5–1,5% до 3,45% по безотзывным вкладам в среднем по банковской системе. В отдельных банках по таким вкладам, возможно, уже предлагают и по 4–5% годовых. Но пока роста на валютных счетах не наблюдается. Хотя бы затормозить отток валютных депозитов. Совет, который хочется дать главному регулятору и банкам: надо поднимать депозитные ставки еще выше. Поведенческие финансы – наука тонкая. Некоторые белорусы тогда, может, и соблазнятся, но другие – «ни в жисть». По тем самым принципиальным соображениям.

Поскольку банки кредитуют клиентов за счет привлеченного капитала, то есть за счет средств вкладчиков, кредитные проценты зависят от того, за какую цену кредитные учреждения привлекают сбережения населения и накопления предприятий. Разница между кредитными и депозитными процентами, иначе говоря, процентная маржа, идет в доход банкам. Повышая депозитные проценты, банки вынуждены повышать и кредитные. Естественно, встает вопрос: под какие проценты клиенты банков, прежде всего предприятия, могут "потянуть" валютные кредиты? Пока банки повышают стоимость валютных кредитов в меньшей степени, чем поднимают проценты по валютным депозитам. Пока они сознательно идут на снижение маржи и своих доходов. Думается, на эти жертвы им придется идти и дальше. Между прочим, рентабельность банковских услуг всегда была раза в два выше, чем рентабельность продукции предприятий реального сектора белорусской экономики.

И так, долларизация депозитов населения, как того желали денежные власти, действительно уменьшается. Угрожающе уменьшается. Общая сумма денег населения Беларуси, размещенных в банках, вместо того чтобы расти, как во всех странах, падает: в августе среднемесячное ее значение составило 8,4 миллиарда долларов в эквиваленте. Еще 1,5 года назад, перед всеми «ковидными» и политическим кризисами, эта сумма была свыше 11 миллиардов. Действительно, Беларусь уникальное государство, только в каком смысле – вот вопрос.

СІТУАЦЫЯ

# Людзі затаіліся…

*Што думаюць і гавораць аб сітуацыі на сваім прадпрыемстве рабочыя буйнейшага ў СНД і Усходняй Еўропе вытворцы хімічных угнаенняў – ААТ «Гродна Азот»? Карэспандэнт «Народнай Волі» паразмаўляў з рабочымі.*




Адметнасцю журналісцкай працы апошнім часам з'яўляецца тое, што пры падрыхтоўцы матэрыялу людзі, якія пагаджаюцца размаўляць, даволі часта ставяць умову: не называць прозвішчаў. І гэта ў лепшым выпадку, большасць наогул адмаўляецца гаварыць з журналістам.

### Пішуць шмат, а работнікі гавораць мала

У СМІ час ад часу з'яўляецца інфармацыя аб тых ці іншых праблемах на прадпрыемстве «Гродна Азот». Былі звесткі, што, каб абысці санкцыі, пачалі маскіраваць прадукцыю пад іншыя маркі і таму падобнае. Паведамлялася, што работнікі пачалі заўважаць недахоп фінансавых сродкаў на мадэрнізацыю састарэлага абсталявання.

2 верасня на пераходным конусе пад'ёмнай трубы 12-га рада печы рыформінгу была выяўлена расколіна, адбыўся выхад газу. Гэта інфармацыя многіх напалохала, паколькі тэхнічныя службы пасля ўсебаковага аналізу прынялі рашэнне аб далейшай эксплуатацыі абсталявання пры выкананні дадатковых мер бяспекі і кантролю. Зрэшты, заводская шматтыражка паведаміла, што праз тыдзень запланавана спыненне цэху і тады адбудзецца рамонт дэфектнага вузла. Так і сталася, дзякуючы Богу без усякіх аварый.

Рабочыя даволі спакойна аб гэтым гавораць. Так, Аляксандр (прозвішча прасіў не называць) заўважыў, што на прадпрыемстве такія рэчы вельмі дасканала абследуюцца спецыялістамі:

*– Я хоць і працую ў іншым цэху, але разумею, што адбылося. Калі пасля абследавання спецыялісты вырашылі, што тыдзень да спынення цэх можа працаваць, то, хутчэй за ўсё, так і ёсць. Там усё вельмі строга, кожная праверка заносіцца ў адмысловы журнал, абы-чаго людзі туды не пішуць.*

Слесар-рамонтнік Дзмітрый Заблоцкі, цяпер ужо былы работнік «Гродна Азота» (яму не працягнулі кантракт), з горыччу заўважае, што, на жаль, высакакласных рамонтнікаў на прадпрыемстве становіцца ўсё менш:

*– У мяне больш за 10 гадоў стажу, маю высокую кваліфікацыю, на Дошцы гонару вісеў мой партрэт, але гэта аказалася не галоўным – звольнілі. Яны што хочуць, тое і робяць. Зараз у брыгаду набралі шэсць маладых хлопцаў, якія ўвосень ідуць у войска. А рамонты на прадпрыемстве складаныя, і хтосьці павінен іх рабіць.*

Дзмітрый распавёў, што пасля падзей мінулага года некаторыя з яго калег, таксама высакакласныя спецыялісты, вымушаны былі з'ехаць з сем'ямі за мяжу і працуюць зараз там.

### У кожным цэху свая атмасфера

Разважаючы аб агульнай сітуацыі на прадпрыемстве і адносінах рабочых з адміністрацыяй, мой папярэдні суразмоўца Аляксандр заўважае: у кожным цэху свая атмасфера, усё залежыць ад кіраўніцтва. Напрыклад, у іх цэху і начальнік, і кіраўнікі змен былі на баку рабочых, калі тыя выходзілі на страйк. Хоць і не афішавалі гэтага, але не прымушалі нікога падпісваць рознага кшталту паперы супраць увядзення санкцый. Нават хадзілі ў адміністрацыю і заступаліся за тых, з кім не працягвалі кантракт пасля забастоўкі 2020 года. Праўда, прызнае мой суразмоўца, такая атмасфера не ў кожным цэху.

Апошнім часам, заўважае Аляксандр, змянілася стаўленне і з боку адміністрацыі прадпрыемства. У прыватнасці, гаворыць рабочы, перасталі распаўсюджваць агітацыйныя ўлёткі, не развешваюць новых загадаў наконт узмацнення дысцыпліны, прыпыніліся звальненні, якія пасля мінулагодняга верасня былі масавымі.

*– Апошнім часам і яны сцішыліся,* – кажа Аляксандр. *– Убачылі, колькі страцілі адмыслоўцаў з 10-, 15-гадовым досведам. Звольнілі высакакласных спецыялістаў, а замяніць іх няма кім. Некаторым жа нават пасылалі лісты з просьбай вярнуцца. А напачатку і слухаць нікога не хацелі.*

Іншы рабочы, Мікалай, разважае пра заробкі на прадпрыемстве. Ён працуе на шкодный вытворчасці і кажа, што ў Расіі на падобных прадпрыемствах заробкі больш высокія.

*– Канечне, адносна таго, што атрымліваюць іншыя, гэта нібыта і нямала,* – гаворыць Мікалай. *– Мы маем па 1200–1500 рублёў – у Гродне цяжка знайсці працу з такім заробкам. Але калі паглядзець, як растуць кошты на прадукты, лекі, паслугі, то нашы грошы – гэта толькі каб пражыць месяц сям'ёй.*

### Планавыя рамонты пакуль праводзяцца, але...

Аб умовах працы і састарэлым абсталяванні разважае кіраўнік Незалежнага прафсаюза **Андрэй Ханевіч**. Паводле яго слоў, абсталяванне на прадпрыемстве насамрэч састарэлае, але планавыя рамонты пакуль праводзяцца. Няма і праблем з патрэбнымі дэталямі, бо іх закупілі загадзя:

*– Да планавых рамонтаў, як правіла, рыхтуюцца загадзя. Пытанне – што будзе потым. Санкцыі пачынаюць дзейнічаць, і запасныя дэталі, вузлы наўрад ці ўдасца набываць у Еўропе. А кітайскія запчасткі, як усім вядома, маюць іншую якасць.*

А вось спадар Заблоцкі ўпэўнены, што да рамонту адміністрацыя падыходзіла неналежным чынам: у прыватнасці, інструмент і неабходнае абсталяванне закупляецца тэхналагічна састарэлае:

*– Да прыкладу, нехта закупляе зварачныя апараты, якія мы не можам падняць на вышыню, іх цяжка насіць з месца на месца. Хаця на іншых прадпрыемствах, звычайна прыватных, мы бачым больш прафесійны, лёгкі і эфектыўны інструмент, з якім значна прасцей і лягчэй працаваць. Чаму гэтага нельга зрабіць на «Азоце»?*

### Слова «забастоўка» не гучыць нават у курылцы

Насцярожыла рабочых выказванне ў адным інтэрв'ю лідара Беларускага аб'яднання рабочых **Сяргея Дылеўскага**, які знаходзіцца за мяжой і які аб'явіў, што на гродзенскім прадпрыемстве склалася перадзабастовачная сітуацыя. Ніхто з маіх суразмоўцаў не захацеў каментаваць словы Дылеўскага. Спадар Аляксандр заўважыў, што нават у курылцы цяпер менш чуваць незадаволеных выказванняў.

*– Кожны цяпер замкнуўся ў сабе, стала шмат недаверы адзін да аднаго. Людзі закрыліся. Слова «забастоўка» наогул не гучыць,* – канстатуе мой суразмоўца. *– Адчуваецца, што кожны нечага чакае і імкнецца не распаўсюджваць.*

Падсумоўваючы сітуацыю, спадар Заблоцкі выказвае сваю думку на гэты конт:

*– Пераважная большасць працоўных на прадпрыемстве, у тым ліку і з кіраўніцтва, супраць таго, што адбылося ў краіне ў мінулым годзе. Але ўсе баяцца і маўчаць. Тыя, хто не баяўся, ужо з Беларусі з'ехалі.*

### Так будуюцца адносіны наймальніка і Незалежнага прафсаюза

З мінулага года, калі на «Гродна Азоце» змяніўся генеральны дырэктар, кіраўнік пярвічнай арганізацыі Незалежнага прафсаюза Андрэй Ханевіч так і не змог патрапіць да яго на прыём, хаця звяртаўся не аднойчы. У выніку напісаў ліст, у якім прапанаваў абмеркаваць пытанні аб сумеснай канструктыўнай дзейнасці па забеспячэнні стабільнай і эфектыўнай працы прадпрыемства. Адказ прыйшоў за подпісам генеральнага дырэктара **Ігара Ляшэнкі**.

Гендырэктар патлумачыў лідару Незалежнага прафсаюза, што нават ва ўмовах санкцый ЗША і ЕС прадпрыемства працягвае рэалізоўваць усе намечаныя інвестыцыйныя праекты, дасягае ключавых паказчыкаў бізнес-плана, праводзіць капітальныя рамонты вытворчага абсталявання, выконвае ўсе ўзятыя на сябе абавязацельствы ў адпаведнасці з Калектыўнай дамовай. А вось, маўляў, аб дзейнасці Незалежнага прафсаюза ні калектыў, ні наймальнік ніякім чынам не інфармаваны. Больш за тое, генеральны дырэктар выказаў пэўны сумнеў наконт таго, ці даводзіцца наогул да членаў пярвічкі БНП інфармацыя аб мерах, якія прымае адміністрацыя па падтрыманні стабільнай працы прадпрыемства, аб'ектыўна і поўна.

Спадар Ляшэнка папракнуў кіраўніка Незалежнага прафсаюза: *«...ні словам, ні справай не спрабуеце па меншай меры асудзіць прынятыя ў дачыненні да нашага прадпрыемства санкцыйныя рашэнні ЗША і ЕС».*

І, падсумоўваючы, гендырэктар выказаў нязгоду са статутам прафсаюза, паводле якога наймальнік і іншыя асобы, якія маюць права прыёму і звальнення, не могуць быць членамі Незалежнага прафсаюза. Спадар Ляшэнка лічыць, што падобная норма носіць дыскрымінацыйны характар і ўступае ў супярэчнасць з заканадаўствам РБ. Ён прапанаваў пярвічцы ініцыяваць прывядзенне асноўнага дакумента прафсаюзнай арганізацыі ў адпаведнасць з заканадаўствам. Маўляў, такі крок мог бы стаць пачаткам у будаўніцтве канструктыўных адносін з наймальнікам.

У Незалежным прафсаюзе пакуль ніяк не адрэагавалі на гэты ліст.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Стала ясна для ахвяры, што найлепей сніць кашмары

У жыхаркі Брэста злодзей украў 5 пярсцёнкаў і бранзалет. Ён залез у кватэру праз незачыненнае балконнае акно і зняў каштоўнасці з рук жанчыны, калі тая спала.

Добра жыць, калі багаты!
Ёсць адна апаска ўсё ж:
Можаш трапіць ты за краты,
Як утоіш нейкі грош.
А як выплаціў падаткі
Да капейкі, да рубля,
Можаш гойсаць без аглядкі
І спакойна спаць пасля.
Так, прынамсі, нас з экрана
Падатковыя чыны
Пераконваюць старанна:
Грошы трэба для казны.
Маладзіца тая, пэўна,
Не падлічвала рублі
І жыла як каралеўна
(Хай бы так усе жылі).
А чаму, лічу, не тонкі
У жанчыны кашалёк?
На руках яе — пярсцёнкі,
Добра бачныя здалёк,
Зіхаціць-блішчыць на сонцы
Адмысловы бранзалет
(Падарыў бы гэткі жонцы,
Ды ў мяне трашчыць бюджэт),
Дарагія завушніцы,
Не дзяшовае калье…
Пазайздросцім маладзіцы —
Многа грошай у яе!
Як за пазухай у Бога,
Так сказаць, яна жыве,
І ніякая трывога
Не сядзіць у галаве.
Людзі ставяцца пачціва,
Не праследуе закон.
Бо падаткі заплаціла,
І таму спакойны сон!
Спіцца крэпка маладзіцы,
Бы на рынку, далібог,
Прадала мяшок пшаніцы —
Так сказаць, без задніх ног.
Маладзіцы й ночы мала,
Каб усе пабачыць сны —
Днём яна таксама спала.
Чалавек са стараны,
Што па вулцы міма крочыў,
Кінуў позірк на акно,
І на лоб палезлі вочы,
Як убачыў шык жаночы —
На царыцы ўсё адно
Упрыгожанняў. З імпэтам
У акно дзяцюк палез.
І не плоцкі меў пры гэтым —
Меў ён шкурны інтарэс.
Рабаўнік — няма й гамонкі…
Маладзіца сніла сны.
Ён здымаў з яе пярсцёнкі,
А жанчына хоць бы хны,
Як забітая, ляжала —
Хоць страляй над ёй з гармат.
Рабаўнік залез удала,
У яго здабычы шмат.
Галава гудзе ў ахвяры,
Думкі лезуць у глузды:
Лепей сніліся б кашмары —
Не было б такой бяды…

* * *

Для жанчыны вынік гадкі,
І шкадуе ўжо яна,
Што дарма, відаць, падаткі
Аддала ў казну спаўна…

### Запрашэнне

— Прыходзь увечары, сусед.
Не будзе дома жонкі,
Я “затаварыўся” як след
Для шчырае гамонкі.
Развеем скруху і нуду,
Як возьмем мы на грудзі!
— Не, не хачу. Я лепш прыйду,
Каля цябе не будзе.

### Лепшая гульня

Я заўжды хвалю хакей —
Аж сыходжу слінай,
Бо няма гульні дабрэй:
Клюшкай, як дубінай,
Разаб’еш камусьці твар,
І сядзець павінны
За такі бандыцкі ўдар
Толькі дзве хвіліны…

### Яшчэ прыпомніць…

Падказку харошую дам
Наіўным мужам маладым:
Усё, што прабачыла вам,
Жанчына прыпомніць затым…

ДЫЯЛОГ З ЭКСПЕРТАМ

Ірына КАШТАЛЯН, даследчык гісторыі сталінскіх рэпрэсій:

# «Спадзяюся, што з часам у Беларусі будзе адчынены паўнавартасны музей гісторыі савецкіх рэпрэсій»

Навуковы інтарэс **Ірыны Кашталян** – гісторыя сталінскіх рэпрэсій. Яна аўтар кнігі «*Рэпрэсіўныя фактары ўнутранай палітыкі СССР і штодзённае жыццё беларускага грамадства (1944–1953)*», суаўтар кнігі «*Месцы памяці ахвяр камунізму ў Беларусі*», якая была выдадзена ў Германіі ў 2010 годзе. У 2006-м яе дысертацыя па тэме «*Штодзённае жыццё беларускага грамадства (1944–1953)*» па ідэалагічных прычынах не была зацверджана Вышэйшай атэстацыйнай камісіяй Рэспублікі Беларусь.

У інтэрв’ю «Народнай Волі» Ірына Кашталян выказала сваё меркаванне наконт увекавечвання памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій і цяперашняга становішча ў Беларусі.



**– Ірына, якія мемарыялы ў памяць ахвяр сталінскага тэрору наогул ёсць у Беларусі?**

– Па зразумелых прычынах узвядзенне помнікаў ахвярам палітычных рэпрэсій у Беларусі пачалося толькі пасля 1991 года. Амаль усе яны з’явіліся дзякуючы народным намаганням, неабыякавым людзям, у каго хтосьці з родных быў забіты ці пацярпеў ад рэпрэсій. Яскравы прыклад – Курапаты.

На маю думку, кожнае месца, дзе людзей масава забівалі ці катавалі ў савецкі час, павінна мець свой помнік ці нейкую асаблівую форму мемарыялізацыі. Так як траўма ад савецкіх рэпрэсій адна з ключавых у грамадскай свядомасці, то патрэбны дзяржаўны ўзровень адказнасці за камемарацыю (захаванне ў грамадскай свядомасці) пры ўмове, што гэта будзе адбывацца пры незалежнай, крытычнай ацэнцы як з боку спецыялістаў у галіне гістарычнай навукі, так і адпаведных юрыдычных інстытуцый, бо дасюль злачынствы не былі належным чынам разгледжаны, а вінаватыя не прайшлі трыбунал. А гэта важна для прымірэння грамадства, каб было дасягнута пэўнае адчуванне справядлівасці, якое немагчыма, пакуль не асуджаны тыя, хто ўжываў неправамерны гвалт супраць сваіх грамадзян.

Дзякуючы Ігару Кузняцову і іншым навукоўцам вядомы як мінімум 53 месцы, дзе ў сталінскія часы забівалі людзей, у Мінску – 12. Не ўсюды стаяць помнікі, і гэта таксама пытанне для будучыні… Важныя і іншыя формы мемарыялізацыі. Гэта і прадстаўленне тэмы ў адпаведных яе значнасці памерах у музеях, падручніках па гісторыі. Прычым для разумення маштабаў трагедыі трэба, каб спецыяльныя архівы нарэшце былі адкрыты і не толькі прамыя сваякі ахвяр атрымалі доступ да масіву інфармацыі пра сталінскі перыяд.

Афіцыйнае забыццё і закрытасць доступу да архіўных крыніц інфармацыі прыводзіць да таго, што нават тыя, хто цікавіцца гісторыяй савецкіх рэпрэсій, у асноўным ведаюць толькі пра Курапаты, і ім цяжка здабыць больш матэрыялаў, бо сведкі ўжо адышлі, а тэматычныя кнігі былі выдадзены маленькімі накладамі і апошнім часам амаль не з’яўляецца новых публікацый, амаль не пішуцца навуковыя працы ў першую чаргу тымі, хто знаходзіцца ў Беларусі. Недахоп даследаванняў спараджае міфалагізацыю і замоўчванне сумных гістарычных падзей нядобрасумленнымі палітычнымі дзеячамі. Ёсць пагроза паступовага сцірання гэтага пласта памяці ў наступных пакаленняў, пры тым што траўма непрапрацавана і будзе ўсё адно адгукацца ў падсвядомых страхах людзей, у абмежавальных іх паводзінах.

Захаванне памяці пра трагедыі XX стагоддзя з улікам лакальных асаблівасцяў – гэта павага да ахвяр і будаванне мастоў паміж пакаленнямі. Пакуль большасць форм «народныя» – крыжы, памятныя шыльды, хаця робяцца спробы стварыць і нешта больш сучаснае ў віртуальных формах, у тым ліку музей рэпрэсій.

Пры дэмакратычным падыходзе да тэмы ў грамадства павінны быць знойдзены абагульняючыя шырокараспаўсюджаныя камемаратыўныя практыкі. Каб маглі суіснаваць афіцыйныя і народныя знакі памяці, каб апошнія не знаходзіліся пад пагрозай зносу. Каб нарэшце быў вызначаны асноўны дзень у календары, калі па Беларусі будуць адбывацца акцыі памяці, напрыклад, у так званую «Ноч расстраляных паэтаў» – з 29 на 30 кастрычніка. І каб быў прызнаны агульны помнік, ля якога збяруцца неабыякавыя прадстаўнікі розных слаёў грамадства, у тым ліку і афіцыйнага боку.

Курапаты сталі знакавым мемарыялам, публічнай прасторай у памяці пра сталінскія рэпрэсіі. Гэта месца дасюль падвяргаецца выпрабаванням, вакол яго няма згоды. У 1989 годзе там быў пастаўлены камень з надпісам, што дзяржава ўсталюе помнік на гэтым месцы. Больш за 25 гадоў грамадства чакала, што афіцыйныя структуры прыйдуць, звернуць увагу на важную тэму. Аднак устаноўка помніка без асаблівага абмеркавання стала хутчэй прыкладам таго, як улады паспрабавалі перахапіць павестку і кантраляваць месца, з тым каб не столькі знізіць градус канфлікту, колькі схаваць гэта месца ад выпадковых вачэй. Ці будзе прыняты з часам цяперашні помнік усімі коламі грамадства – гэта пытанне. Магчыма, калі цяперашняя сітуацыя крызісу будзе пераадолена і наступіць этап прымірэння.

**– Чаму сённяшнія ўлады баяцца нават помнік паставіць ці зрабіць музей?**

– Памяць мае шэраг узроўняў. Манументальны – адзін з самых жывых і функцыянальных. Бо помнік уключаны ў прастору, ён нешта гаворыць людзям, таму яго роля вельмі важная: прыцягнуць увагу, выклікаць пытанні. Іх не будзе, калі помнік будзе адсутнічаць, калі на масавых магілах паўстануць дамы і ў іх будуць жыць людзі.

Ёсць праблема з аднабокім стаўленнем да савецкага часу, ухілам у ідэалізацыю гэтага перыяду гісторыі, што выяўляецца і ў тых сувязях з перыядам, на якіх падтрымліваюць сённяшнюю ідэалогію, у спецыфічнай каштоўнаснай сістэме, якую спрабуюць прывіць моладзі. Таму для афіцыйнага боку прасцей маўчаць на тэму рэпрэсій ды ствараць аўру забароненасці. Але нават калі пазбягаць нейкіх тэм, гэта не значыць, што маладое пакаленне не задасць крытычных пытанняў.

Яшчэ важны момант для нас: не было афіцыйнага працэсу пакаяння за злачынствы камунізму. Хаця непасрэдныя ахвяры палітычных рэпрэсій адышлі ў лепшы свет, але за час з выкрыцця культу асобы Сталіна са здабыццём Беларуссю незалежнасці не былі хаця б сімвалічна пакараны тыя, хто выконваў злачынныя загады. У грамадстве захоўваецца адчуванне, што за злачынствы можа быць беспакаранасць, а гэта разбуральны эфект для прававой дзяржавы, ён мае негатыўны ўплыў на адчуванне людзьмі пазітыўнай будучыні. У інтарэсах дзяржавы павінна быць забеспячэнне роўнага дзеяння законаў для ўсіх. І законы не павінны парушаць асноўныя правы чалавека, а наадварот – мусяць абараняць іх. Таму прыцягненне да адказнасці можа і павінна пасмяротна быць для тых, хто ў сталінскі перыяд аддаваў і выконваў ганебныя загады супраць сваіх грамадзян.

Грамадства і дзяржава павінны заахвочваць, каб у гісторыі не было забароненых тэм з-за іх нязручнасці, інакш як выхаваць грамадзяніна, які здольны крытычна думаць, параўноўваць факты, ацаніць наступствы дзеянняў гістарычных дзеячаў і пабудуе лепшую будучыню, дзе падобнае парушэнне правоў іншых, ранейшыя злачынствы не паўторацца?

**– Ці былі ў вашай сям’і ахвяры сталінскіх рэпрэсій?**

– У маёй сям’і цэлы комплекс гісторый, звязаных з савецкімі рэпрэсіямі. Адна з іх тычыцца савецка-польскай вайны. Некаторыя мае сваякі былі забіты бальшавікамі, прычым яны былі рознага ўзросту, іх папросту пасеклі ў хаце… А мой прадзед у 1933 годзе быў рэпрэсаваны як польскі шпіён толькі за тое, што дапамагаў ксяндзу у касцёле Святога Роха ў Мінску. Ён атрымаў тры гады, і больш яго сям’я не ўбачыла. У яго засталася жонка з дзевяццю дзецьмі, а дом канфіскавалі. Рэабілітацыя прыйшла значна пазней і была хутчэй фармальнай…

Таксама пацярпеў старэйшы брат другога дзеда: у 1938 годзе яго асудзілі як контррэвалюцыянера за тое, што не хацеў аддаваць сваю зямлю калгасу, і расстралялі.

Мая бабуля да апошніх гадоў жыцця вельмі не хацела аб гэтым расказваць, але мы з усімі сваякамі збіралі па частках інфармацыю ў межах сямейнай гісторыі.

**– Мы ўвесь час кажам «сталінскія» рэпрэсіі, а ці былі «хрушчоўскія», «брэжнеўскія», «андропаўскія»?**

– Былі, канешне. Менавіта сталінскія запомніліся як самыя масавыя, брутальныя, яны былі асуджаны публічна на XX партыйным з’ездзе. Але пагроза рэпрэсій, хаця ў іншым памеры, існавала на працягу ўсяго савецкага часу. Зразумела, што пасля Сталіна Крымінальны кодэкс змяняўся, ГУЛАГ згарнулі. Пры гэтым мы павінны разумець, што рэпрэсіі – гэта не толькі асуджэнне, прымусовае змяшчэнне ў псіхіятрычную лякарню на лячэнне, але і пазбаўленне права на прафесію, адукацыю, перашкоды ў стварэнні сям’і, псіхалагічны прэсінг і г.д. Усё гэта негатыўна ўплывала на жыццё чалавека і яго блізкіх, аднімаючы здароўе і асабістыя перспектывы.

Згадваецца як прыклад рэпрэсій хрушчоўскага часу – пераслед двух пляменнікаў Якуба Коласа ў 1957 годзе за тое, што яны зрабілі ўлёткі з вершам у абарону беларускай мовы і павесілі іх на дрэвы ў парку імя Горкага ў Мінску і ля Медыцынскага інстытута. Ім далі 10 і 7 гадоў пазбаўлення волі адпаведна за так званую антысавецкую агітацыю і прапаганду. Пасля скарацілі тэрмін на 4 гады. У выніку адзін з іх застаўся інвалідам і не змог абараніць дысертацыю па беларускай літаратуры, якую рыхтаваў да зняволення, усё жыццё прапрацаваў бібліятэкарам, а другі ў хуткім часе пасля вяртання са зняволення ў Мардоўскай АССР памёр.

**– Як палітычныя рэпрэсіі паўплывалі на беларускі народ?**

– Я не псіхолаг, каб прааналізаваць гэта, мне самой цікава было б паслухаць спецыялістаў на гэты конт. На мой погляд, падзеі, якія адбываюцца ў нас са жніўня мінулага года, адлюстроўваюць і моцны ўплыў траўмаў гістарычнага мінулага ў грамадстве. Вельмі хочацца спадзявацца, што, нягледзячы на тое, што мы зараз не ведаем пэўна, якой будзе блізкая будучыня, але ўсё ж мы не застанёмся надоўга ў часах, калі трэба аглядвацца на наступствы сказанага, выказвання ўласнага меркавання.

Спадзяюся, што ўжо хутка мы прыйдзем да працэсу рэальнай дэкамунізацыі ў краіне, і гэта наступіць па запыце з двух бакоў – і ад улад, і ад простых людзей. Было б добра, калі б гэта праявілася як мінімум у адмове ад назваў вуліц і помнікаў, якія маюць імёны тых, хто спрыяў палітычным рэпрэсіям супраць беларускага народа. Спадзяюся, што з часам у Беларусі будзе адчынены паўнавартасны музей гісторыі савецкіх рэпрэсій, куды будуць рэгулярна вадзіць школьнікаў, каб тыя ведалі сваю сапраўдную гісторыю.

Ці будзе ўсталяваны помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій і ці зробіць гэта Міністэрства культуры? Гэтыя пытанні я адрасую цяперашняму міністру культуры Анатолю Маркевічу.

**Глафіра ЖУК.**



Курапаты сталі знакавым мемарыялам, публічнай прасторай у памяці пра сталінскія рэпрэсіі. Больш за 25 гадоў грамадства чакала, што афіцыйныя структуры звернуць увагу на важную тэму.

СТРАНИЦЫ НОВЕЙШЕЙ ИСТОРИИ



Алексей ДЬЯЧЕНКО, бывший зять Бориса Ельцина

# Ельцин и те, кто переобулся

*(Фрагменты будущей книги «От Ельцина до Путина. И обратно»)*

***30-летию Великой августовской демократической революции 1991 года посвящается***

*(Продолжение. Начало в №№53–57,59,60,62–65,67,68.)*

Известный режиссер и актер **Никита Михалков** не был лично близок к Ельцину. Но он был важной фигурой ельцинского времени.



Михалков не бывал в Президентском клубе, где неформально собирались люди из ближайшего окружения Ельцина. Не приезжал на президентскую дачу. Но в 1995 году Михалков вошел в первую тройку предвыборного списка кремлевской партии «Наш дом – Россия», которую возглавил премьер Черномырдин. Он сыграл немалую роль в том, что партия вошла в Государственную Думу и образовала там влиятельную фракцию. Сам Никита Сергеевич от мандата депутата отказался. Предпочел свободу действий. Кстати, «финансовым директором» этой партии стал тогда Борис Абрамович Березовский.

В 1996 году Михалков активно участвовал в работе предвыборного штаба Ельцина. Хорошо помню его появления в офисе штаба. Это всегда было ярко, красиво, громко. Надо сказать, что предложенные Михалковым проекты хорошо финансировались штабом. К его идеям относились с исключительным уважением.

В конце 1990-х годов, когда в Москве активно обсуждались кандидатуры преемников Ельцина, пошел слух о том, что Михалков – возможный преемник. Однажды об этом сказал известный телеведущий Евгений Киселев в своей не менее известной программе «Итоги» на НТВ. Конечно, никто внутри Кремля даже не изучал такую возможность. Я не помню, чтобы Ельцин когда-либо упоминал в разговорах Михалкова. В любом контексте. Грубо выражаясь, этот слух – бред сивой кобылы. Но кто-то же запустил его… Кто-то даже подкинул этот бред Киселеву на НТВ. Интересно, кто?

Сегодня Никита Сергеевич критикует ельцинское время и работу построенного в Екатеринбурге Президентского центра Б.Н.Ельцина. Конечно, каждый человек имеет право на собственное мнение, имеет право высказывать это мнение, менять это мнение. Но мне кажется, что многие высказывания известного режиссера и общественного деятеля Михалкова рассчитаны на людей, которые не знают или не помнят события 1990-х. И заявляет Никита Сергеевич о тех временах вроде как сторонний наблюдатель, как бы забывая о своем прямом активном участии в политике на стороне Кремля. Ведь, образно говоря, здание екатеринбургского центра Б.Н.Ельцина знаменитый режиссер тоже помогал строить. И не симпатизировал он тогда оппозиции. В отличие, например, от Говорухина.

Людей, успешно работавших в эпоху Ельцина и критикующих сегодня те времена, совсем не мало. Им стоило бы посвятить отдельную книгу. Но пока я посвящаю им только короткое сообщение. Помимо Михалкова вспомним еще ряд сверхмедийных личностей.

Политолог **Сергей Марков**. Один из активистов «ДемРоссии» Московского университета. Участвовал в работе еще «Демплатформы» в КПСС. Несколько лет был сопредседателем российского подразделениям одного знаменитого на весь мир аналитического центра, главная штаб-квартира которого находится в США.



В 2002 году Марков был задержан вместе с Немцовым и Хакамадой властями Лукашенко в Минске за критику с правозащитных позиций белорусского режима. Короче, записной демократ. А потом… членство в Общественной палате, избрание в Думу от «Единой России», поддержка Лукашенко в деле силового удержания власти.

Опять же… Я не вправе судить людей. Каждый человек выбирает свой путь. У меня просто один интерес. Чтобы некоторые люди, критикующие 1990-е, вспомнили свою счастливую молодость в те годы. И свою успешную карьеру. Без той успешной карьеры служили бы они сейчас преподавателями в институте и не сверкали бы каждый день на телевидении и в интернете.



**Вячеслав Никонов**. Сейчас депутат Госдумы. Ведущий политической программы «Большая игра» на Первом канале. Сильный аналитик.

Сейчас Вячеслав Алексеевич ругает Америку, критикует «слабость» России в 1990-е годы. Но мы знаем и другого Славу Никонова. Который разрабатывал предвыборные документы для Ельцина в 1996 году. Никогда не ругал США. С удовольствием ездил в Вашингтон на многочисленные встречи, семинары, конгрессы. Дружил с американскими сенаторами и послами. Не пугала тогда Вячеслава Никонова внешнеполитическая «слабость» России. Совсем не пугала.



**Елена Винник**. Одно из лиц Первого канала. Ведущая новостей. Допущена к передачам с участием самого Путина.

Читаем биографию Винник. Энергичная девушка из Пскова выиграла грант института «Открытое общество», основанного Фондом Джорджа Сороса (на территории России признан нежелательной организацией) и поехала учиться в Англию, в Манчестерский университет. Из Великобритании она приехала уже со степенью магистра в области международного семейного права. С такими данными ее с удовольствием взяли на главные телеканалы страны – сначала на НТВ, а потом на Первый. Настоящая Золушка эпохи Ельцина. А нам рассказывают, что в 1990-е годы все молодые женщины стояли на трассах, сожительствовали с бандитами или сидели на наркотиках. Оказывается, нет. У кого-то появился шанс. Кто-то получил хорошее образование за счет спонсоров. Девушка из провинции, без помощи влиятельных родственников… Патриоты, правда, утверждают, что Фонд Сороса (на территории России признан нежелательной организацией) готовил агентов западного влияния для проникновения в самые высшие сферы российского общества. Но, надеюсь, с этим наши органы знают, как разбираться. Сегодня Винник уже никакой не специалист по семейному праву из Манчестерского университета, а лицо, особо допущенное к государственным новостям.

Вот так причудливо устроен наш мир.

*(Продолжение следует.)*

ИХ ЖИЗНЬ

# Сколько зарабатывают депутаты в ФРГ и какие могут принимать подарки

Депутаты германского бундестага имеют право на получение основного жалованья за свою парламентскую деятельность, а также на побочные доходы – так постановил Конституционный суд ФРГ. Таким образом, избранные народными представителями адвокаты, врачи, налоговые советники и другие имеют возможность не прерывать свою профессиональную карьеру, а совмещать ее с работой депутата.

Впрочем, законы Германии также четко оговаривают, что на период работы в парламенте именно депутатская деятельность должна быть основной. Законами же прописаны и прочие особенности депутатских доходов.



## Жалованье, которое «позволяет быть независимым»

48-я статья Основного закона ФРГ предусматривает выплату депутату жалованья, которое «позволяет быть независимым». В теории это означает, что одного такого жалованья должно полностью хватать на жизнь. В качестве ориентира при этом выбирается оклад судей Федеральной судебной палаты Германии. Размер депутатского жалованья пересматривается ежегодно 1 июля. На данный момент оно составляет 10.012,89 евро в месяц и подлежит налогообложению.

## Компенсация расходов

Кроме того, каждому обладателю мандата в бундестаге полагается единая выплата, покрывающая расходы, которые возникают в результате осуществления депутатской деятельности.

Каждый депутат имеет два офиса: один в Берлине, где и работает бундестаг, второй – в своем избирательном округе. Именно в округе депутат несет наибольшие расходы, включая зарплаты своих помощников и оплату офиса. Кроме того, в Берлине депутаты должны за свои деньги снимать себе временное жилье.

Сумма компенсации ежегодно корректируется 1 января с учетом инфляции и составляет на данный момент 4560,59 евро в месяц. Она не входит в налогооблагаемую базу.

## Оплата должностных атрибутов

В течение одного календарного года депутатам германского бундестага требуется посещать пленарные заседания 20 недель. Это является их обязанностью. На это время им и их помощникам предоставляется меблированный офис размером 54 квадратных метра, включая средства связи. На территории Берлина им полагается служебный автомобиль. Также они получают бесплатный проездной на железную дорогу для поездок по территории страны и имеют право на компенсацию авиаперелетов по Германии, если такие перелеты совершаются для исполнения депутатских обязанностей.

В дополнение каждому депутату выделяется 12 тысяч евро в год на покупку офисного оборудования – ноутбуков, мобильных телефонов, канцелярских принадлежностей и тому подобного, причем не только для берлинского офиса, но и для офиса в избирательном округе депутата.

В 2009 году именно эта часть выплат депутатам оказалась в центре скандала, когда около 100 депутатов заказали себе элитные ручки фирмы Montblanc на общую сумму в 68 тысяч евро. После этого список допустимых для заказа депутатами канцелярских товаров был переработан, и из него были исключены предметы роскоши.

## Дополнительный заработок

Другой темой, неоднократно вызывавшей в Германии бурные общественные дискуссии, являются дополнительные заработки депутатов. Они разрешены – но о них требуется уведомлять парламентскую канцелярию. В бундестаге нынешнего – 19-го – созыва о своих дополнительных доходах сообщили около трети всех парламентариев.

Близкий к немецким профсоюзам фонд Отто Бреннера посчитал, что наиболее активно в уходящем легислатурном периоде подрабатывали депутаты от Свободной демократической партии (FDP) и от блока партий Христианско-демократического и Христианско-социального союзов (CDU/CSU). Причем пятеро из них указали, что их приработки превысили сумму в 1 миллион евро.

В 2021 году законодательные нормы, регулирующие приработки депутатов в Германии, были ужесточены. Отныне парламентарии должны указывать точную сумму своих дополнительных доходов, если их сумма превышает 1000 евро в месяц или 3000 евро в год. До сих пор достаточно было просто указать, к какой группе по размеру дохода они относятся – например, до 30 тысяч евро, до 100 тысяч евро и так далее. Необходимо также указывать владение долей в предприятии, если эта доля превышает 5%.

Пандемия коронавируса высветила и еще одну проблему. Как выяснилось, ряд депутатов получили многомиллионное вознаграждение за посредничество при закупках медицинских масок федеральным и земельными министерствами. По следам этого скандала депутатам запретили использовать свой статус парламентария для бизнес-целей, выступая как посредники для федерального правительства или парламента.

## Подарки депутатам

До недавних пор парламентарии могли довольно свободно принимать подарки – при условии, что подарок не вынуждал депутата к каким-либо ответным действиям или услугам. Ведь коррупция или мздоимство полностью запрещены.

Новшеством теперь является запрет депутатам принимать пожертвования или получать гонорары за выступления, если это каким-либо образом связано с депутатской деятельностью. Что же касается подарков, то теперь принять их депутат бундестага имеет право только в том случае, если их стоимость не превышает 200 евро. Подарки, ценность которых выше этой суммы, либо должны быть переданы председателю бундестага, либо могут остаться у депутата, который внесет в парламентскую кассу стоимость такого презента.

НОВИНКА

# Mercedes-Benz представил управляемый силой мысли концепт-кар

*Автоконцерн Mercedes-Benz представил концепт-кар, способный действовать, читая мысли водителя. Об этом сообщает интернет-портал «Мир24».*

Концепт Vision AVTR был представлен на выставке IAA Mobility – 2021 в Мюнхене. Это обновленный футуристический автомобиль Vision AVTR, главное нововведение в котором – шлем для управления машиной силой мысли.

На приборной панели установлены световые индикаторы, фиксирующие взгляд водителя, а закрепленное на затылке устройство мониторит активность мозга. Когда водитель фокусируется на определенном свете приборной панели, устройство выполняет то или иное действие.

В Mercedes-Benz заметили, что к созданию этого автомобиля инженеров компании побудил фильм Джеймса Кэмерона «Аватар».

Ранее сообщалось, что в Израиле создан электрокар, способный менять габариты. При необходимости ширина машины уменьшается до одного метра.



Народная Воля http://www.nv-online.info
28 ВЕРАСНЯ 2021 г.

З НАГОДЫ

# Хто гоніць каранавірусную хвалю?

*14 верасня на нарадзе ў Савеце Рэспублікі па тэме супрацьдзеяння распаўсюджванню COVID-19 было афіцыйна абвешчана, што ў краіну прыйшла новая хваля пандэміі каранавіруса.*

*«Мы бачым, што пайшоў рост захворванняў,* – заявіла старшыня Савета Рэспублікі **Наталля Качанава**. – *Гэта звязана ў тым ліку і з ростам іншых сезонных захворванняў. І мы павінны быць да гэтага гатовы».*

За два дні да нарады з удзелам Наталлі Качанавай і кіраўніцтва Міністэрства аховы здароўя на «Мінск-Арэне» хакейнае «Дынама» прымала казанскі «Ак Барс» і атрымала першую дамашнюю перамогу. На матчы, як сведчыць афіцыйная статыстыка, прысутнічалі 7260 гледачоў, якіх клуб сардэчна запрасіў на трыбуны і ў далейшым. У мінулую суботу на матч з піцерскім СКА прыйшла рэкордная колькасць балельшчыкаў – каля 13 тысяч.

13 верасня, за дзень да той жа нарады, Міністэрства спорту і турызму радасна адрапартавала, што *«ў беларускай сталіцы прайшоў Мінскі паўмарафон, у забегах удзельнічалі 10 тысяч чалавек – як айчынныя аматары здаровага ладу жыцця і спартсмены, так і госці з-за мяжы».*

Арганізатары былі крыху засмучаны, што ў гэтым годзе з-за пандэміі давялося абмежаваць колькасць удзельнікаў, але і 10 тысяч нямала ў той час, калі спадарыня Качанава заклапочана *«ростам захворванняў».*

А Міністэрства аховы здароўя 13 верасня падрыхтавала свой рапарт: *«за мінулыя суткі ў Беларусі зафіксавана 1888 выпадкаў каранавіруса, памерлі 12 чалавек».*

Добра, безумоўна, што спартыўныя чыноўнікі клапоцяцца пра *«здаровы лад жыцця»*, але ці варта было праводзіць 10-тысячны паўмарафон у такія няпростыя часы? Ці ёсць гарантыя, што масавыя спаборніцтвы не ўплываюць на рост захворвання? Атрымліваецца, адны правакуюць сітуацыю, а другія пасля хапаюцца за галаву, калі *«ў краіну прыйшла новая хваля каранавіруса»*. Навошта?



Зрэшты, і самі спартсмены ды трэнеры становяцца ахвярамі віруса. Напрыклад, дзяржаўны трэнер па біятлоне **Юрый Альберс** паведаміў, што некалькі біятланістаў асноўнага складу зборнай Беларусі атрымалі станоўчы вынік тэста на каранавірус пасля вяртання з Антхольца, дзе каманда праходзіла перадсезонны збор. Цяпер і тыя, хто падхапіў вірус, і тыя, каго ён мінуў, вымушаны знаходзіцца на самаізаляцыі. Яны прапусцілі чэмпіянат Беларусі, які праходзіў у Раўбічах.

Галоўны трэнер барысаўскага БАТЭ **Віталь Жукоўскі** таксама шчыра прызнаўся, што зрабіў тэст, які даў станоўчы вынік на COVID-19.

*«Потым пайшлі здаваць тэсты і трэнеры, і футбалісты*, – распавёў трэнер. – *І ўсім пачало паказваць, што ў іх таксама станоўчы тэст.*

*Так, я перахварэў на каранавірус, і ўсе хлопцы ў нас перахварэлі. Дзякуй Богу, што на дадзеным этапе ва ўсіх адмоўныя вынікі тэста».*

Зразумела, што цалкам ізалявацца ў нейкім вакууме спартсменам ці каму б то ні было не ўдасца, але асабіста я не разумею ні тых, хто бярэ ўдзел у такіх мерапрыемствах, як Мінскі паўмарафон, ні тых, хто іх арганізоўвае.

Самі ствараем для сябе праблемы, якія затым гераічна пераадольваем. І гэта пры лепшым раскладзе…

**Алесь СІВЫ.**

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

## Як уплывае на вірус навакольная тэмпература?

Ніяк. Такі адказ дае Сусветная арганізацыя аховы здароўя. Няма падстаў лічыць, што халоднае надвор'е можа збіць наступленне новых штамаў каранавіруса ці іншых хвароб. Ніяк не абараняе ад інфіцыравання вірусам COVID-19 і гарачая ванна.

Нармальная тэмпература цела чалавека застаецца на ўзроўні 36,5–37°С незалежна ад вонкавай тэмпературы і надвор'я.

СЛОВА ПАЭТА



Васіль ЗУЁНАК

## Заклінаю: гэта – не аддай!

Будзь заўсёды, як Радзіма, добры,
Будзь ласкавы, як яе трава,
Будзь высокі, без памкненняў дробных,
Як над полем неба сінява,
Просты будзь, як калыханка маці,
Дбайны будзь, як сейбіт і ратай.
Нават калі ўсё на свеце страціў –
Заклінаю: гэта – не аддай!

РЭПРЭСІІ

Кацярына КАРПІЦКАЯ:

# «Людзей дагэтуль працягваюць катаваць»

*Журналістка «Нашай Нівы» **Кацярына Карпіцкая** на месяц трапіла на Акрэсціна. За гэты час яна паспела падхапіць там некалькі хвароб, а таксама пабачыла, як палітзняволеных у ізалятары працягваюць катаваць. Вось што яна піша:*

«Як я трапіла ў ЦІП – гісторыя на асобны пост, а ў гэтым я проста хацела б нагадаць, што разам з палітзняволенымі па крыміналцы нашых працягваюць катаваць на Акрэсціна. 30 сутак там у сённяшніх умовах мне хапіла, каб выйсці з букетам новых хвароб – ад фарынгатрахеіту да цыстыту і кароны (дарэчы, менавіта прышчэпка дапамагла перанесці апошнюю досыць лёгка ў параўнанні з маімі сакамерніцамі). А людзі сядзяць там па 60 сутак і больш у залежнасці ад таго, колькі пратаколаў ім захочуць накінуць.

Сядзяць у антысанітарыі – іх ніколі не водзяць у душ і не выдаюць нават шчотак з асабістых рэчаў. Туалетную паперу часам прыходзілася выбіваць па сантыметры.

Сядзяць месяцамі без шпацыраў (паветра ў камеру №15 магло паступаць да нас толькі з калідора праз «кармушку», але яе спецыяльна ўвесь час зачынялі).

Сядзяць без матрацаў (падушкай нам служыў спляснелы хлеб), а на голай падлозе ці шконцы спаць было б яшчэ магчыма, але ночы даўно дзіка халодныя – нават абдымаючы адна адну і заціскаючы паміж ног бутэльку з гарачай вадой, мы не маглі супакоіць дрыжыкі. Ночы ператвараліся ў цыкл фізічных практыкаванняў – папрысядаць, паадціскацца, пастаяць у планцы – неяк сагрэцца і заснуць.

Сядзяць без сну (у два і чатыры ночы нас падымалі на пераклічкі; пра тое, што там суткамі гарыць яркае штучнае асвятленне, і нагадваць не трэба).

Сядзяць без перадач (многіх жанчын забіралі з працы ці лецішч у спадніцах, сукенках, і яны так і ляжалі начамі на халоднай падлозе, пакуль нехта з тых, хто выходзіў на волю, не здымаў з сябе байку ці трусы-шкарпэткі. Шчоткай, якая ў спадчыну дасталася мне, карысталася яшчэ чалавек пяць да гэтага, здаецца. А ў майцы хадзіла сама маці «Хлопотного дельца»).

Сядзяць напалову галодныя (за месяц харчавання я мусіла заплаціць



больш за 400 рублёў (каля 150 еўра), і за гэтыя грошы на абед атрымлівала пусты суп – вадкасць з парай бульбін і лупінай ад яе, спляснелы хлеб і два кубкі гарбаты ці кісель, якія запаўнялі толькі палову кубка. Як мясцовых порцый хапае нашым хлопцам, я не ўяўляю).

Сядзяць без адэкватнай медыцынскай дапамогі (у пікавы момант у двухмеснай камеры №15 утрымлівалася 20 жанчын – у холадзе і духаце ўсе хутка пачыналі хварэць. Усіх атакоўваў каранавірус, які, як і іншыя хваробы, лечыцца там збольшага парацэтамолам. Без магчымасці рухацца ў хаце 3 на 4 метры, з дрэнным харчаваннем усе рэзка переставалі хадзіць у туалет. Ужо прабачце за падрабязнасці, але за 30 сутак я змагла зрабіць гэта толькі тры разы).

Сядзяць як паддоследныя. Мне нават неяк не па сабе расказваць, як дарослыя цёткі і дзядзькі з ЦІП кайфуюць, назіраючы ў вочкі і камеры за тым, як мы будзем змагацца з новым прыдуманым выпрабаваннем. Спачатку да вас падсяляюць Алу Ільінічну і Марынку з вошамі, чакаючы, што ў нас пачнецца істэрыка. Але мы знаходзім з імі агульную мову, і праз некалькі дзён «істэрыка» здараецца ў дзяжурных, якія ўсё ж вядуць так званых маргіналаў з нашых камер на «пражарку», бо сітуацыя блізкая да эпідэміі педыкулёзу. Супрацоўнікі вельмі перажываюць за стан сваёй формы – яны вымушаны два разы на суткі праводзіць шмон у нашых камерах і прашчупваць нас, а так лёгка падчапіць як мінімум адзежных насякомых.

Пасля да нас падсяляюць новую Марыну – у яе расстройства кішэчніка, яна ўся ў гаўне, а яшчэ ў язвах, якія сцякаюць крывёю, у грыбку. А яшчэ ў яе жорсткі абстынентны сіндром. Супрацоўнікі ЦІП назіраюць і чакаюць, што мы сарвёмся. Але мы проста бяром і пачынам мыць Марынку над дзіркай у падлозе і выбіваем у медсупрацоўніка зялёнку, каб апрацаваць яе раны. Нам забараняюць сядзець і спаць, абражаюць, але мы працягваем жартаваць і з камер чуецца смех – усё гэта вельмі раздражняе супрацоўнікаў ЦІП.

Мне ёсць яшчэ што згадаць, але больш падрабязна я апішу ўсе катаванні і прамыя злачынствы ў дачыненні да беларусаў у скаргах у дзяржустановы (хоць яны пасля і скажуць, што дадзеныя факты не пацвердзіліся, Азаронку ж у нас спадабалася). Але пакуль проста коратка нагадаю, за што ў Беларусі так здзекваюцца з людзей у статусе правапарушальнікаў:

– была на вуліцы ў чырвонай сукенцы з белай накідкай;

– прыйшла падтрымаць тату Марыі Калеснікавай на суд (у пратаколе напісалі «хацела вызваліць Марыю Калеснікаву»);

– прынесла кветку да месца забойства Тарайкоўскага;

– пераслала мужу ў асабістыя паведамленні навіны з «экстрэмісцкіх» тэлеграм-каналаў;

– зняла на відэа дваровы марш у Лошыцы;

– сказала вайскоўцу «Наша возьме»;

– чытала ў электрычцы кніжкі беларускіх пісьменнікаў;

– была непажаданай новаму кіраўніцтву Акадэміі кіравання;

– перапісвалася ў чаце Лебядзінага з суседзямі;

– вярнулася з Францыі, дзе выйшла замуж за француза;

– працавала ў «Корпусе», а калі туды прыехаў ГУБАЗІК, «аказала» ім непадпарадкаванне» (насамрэч, вядома, не);

– айцішніца, якая можа ведаць кіберпартызанаў…»

ПОЛИТКУХНЯ

# На силовиков деньги есть, а на новые выборы – нет

*В начале сентября три председателя официально зарегистрированных политических партий написали коллективное обращение в Центризбирком. Политики просили сообщить дату, когда будут назначены новые выборы в Палату представителей.*

*«С момента начала работы VII сезона Палаты представителей Национального Собрания Республики Беларусь умерли два депутата: **Писаник Леонид Федорович** (Полесский округ №43, умер 05.10.2020) и **Лавриненко Игорь Владимирович** (Березинский округ №61, умер 14.05.2021),* – написали председатели Белорусской партии «Зеленые», Белорусской социал-демократической партии (Грамада) и Белорусской партии левых «Справедливый мир» в своем коллективном обращении в Центризбирком. – *Таким образом, избиратели в округах №43 и №61 остались без своих представителей в нижней палате белорусского парламента».*

И действительно, почему не назначают новые выборы в данных округах?

Вот какой ответ на днях получил председатель Белорусской партии «Зеленые» **Дмитрий Кучук** от секретаря Центризбиркома **Елены Дмухайло:**

*«Часть первая статьи 88 Избирательного кодекса Республики Беларусь, на которую Вы ссылаетесь в обращении, не содержит слов «должны быть проведены», а только указывает на государственный орган, который правомочен назначать новые выборы в случае выбытия депутата и на временные рамки такой избирательной кампании. Ранее выборы депутатов вместо выбывших проводились одновременно с другими выборами, что обусловлено отсутствием бюджетного финансирования на эти цели в другое время.*

*Также отмечаем, что парламент является общенациональным представительным органом, и граждане для реализации своих интересов вправе обращаться непосредственно в Палату представителей, любую комиссию Палаты и к любому депутату».*

*«На силовиков деньги есть, а на новые выборы – нет*, – комментирует Дмитрий Кучук. – *И это при том, что в этом году в бюджет заложено финансирование местных выборов».*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
28 ВЕРАСНЯ 2021 г.

ПАМЯЦЬ

# «Ніл Гілевіч надпісаў мне 100 сваіх кніг і ні разу не паўтарыўся!»

*30 верасня спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння Ніла Сымонавіча Гілевіча – выдатнага паэта, перакладчыка, фальклярыста, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, шматгадовага аўтара «Народнай Волі». Так сталася, што каляндар пад гэтай датай адзначае яшчэ і Міжнародны дзень сэрца. Супадзенне, як падаецца, невыпадковае. «Так, ён меў вялікае беларускае сэрца», – пагадзіўся са мной кандыдат эканамічных навук **Яўген СТАСЕВІЧ**, які больш за паўвека сябраваў з народным паэтам і пагадзіўся сёе-тое цікавае прыгадаць.*



«Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы».



Сябры – Ніл Гілевіч і Яўген Стасевіч.

**– Спадар Яўген, пяцьдзясят з гакам гадоў непарушнага сяброўства – гэта, пагадзіцеся, рэдка бывае. А дзе і калі вы пазнаёміліся?**

– У 1950 годзе ў піянерскім лагеры «Будаўнік» у вёсцы Воўчкавічы пад Мінскам. Там мы з Нілам працавалі піянерважатымі, як і нашы падапечныя, насілі чырвоныя гальштукі. Ён ужо тады вылучаўся сярод нас не толькі сваёй высокай постаццю і раскошнай чупрынай, але і прыцягальнай энергетыкай, рэдкай на той час інтэлігентнасцю. Я ведаў, што Ніл вучыўся ў педвучылішчы, але не падазраваў, што піша вершы, ён не прызнаваўся. А выявілася гэта так. У нас у лагеры быў выкладчык фізкультуры, які дужа ўлягаў за дзяўчатамі. Меў ён магутны целасклад, важыў, відаць, больш за цэнтнер, і мы яго за гэта звалі Бомам (мядзведзем). І вось неяк вечарам сядзім, размаўляем, а з недалёкіх кустоў выходзяць выкладчык з кухаркай, якая была вядомая вольнымі паводзінамі. Ніл тут жа выдаў экспромт: *«Раз сядзелі мы на ганку, / гаварылі пра каханку, / раптам бачым – лезе Бома, / як мядзведзь той з буралома»*. Я кажу: «Ніл, дык ты ж паэт!» І ён прызнаўся, што піша.

**– Вы па прафесіі тэхнар, інжынер абутковай прамысловасці. Што вас аб'ядноўвала?**

– У нас была нейкая ўзаемная цяга адзін да аднаго. Да таго ж у яго жонка Ніна Іванаўна, і ў мяне таксама Ніна Іванаўна...

**– Ніколі не пераблыталі?**

– Не, што вы! Ніл аднaлюб, і я аднaлюб. Ён сваю жонку шчыра любіў і паважаў. Калі Ніна Іванаўна памерла, ён сабраў усе яе рукапісы мовазнаўчыя і выдаў. А яшчэ Ніл вельмі любіў слухаць мой гармонік, калі я беларускія песні спяваў (у маім рэпертуары іх больш за сотню, часам і мелодыі сам прыдумваю). Хоць я самавучка. Мне мама мая пасля вайны на апошнія грошы купіла гармонік. А потым новы і вельмі файны атрымаў у падарунак ад дырэктара Тульскай абутковай фабрыкі, калі я ўзначальваў Мінскае канструктарскае бюро скургалантарэйнай прамысловасці. Фактычна гэта быў інстытут саюзнай падпарадкаванасці са 150 супрацоўнікамі. Тады я нават быў узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны».

**– На працы думалі пра чаравікі, а дома – пра песні?**

– Так, мяне ўсё жыццё цягнула да песні, да паэзіі. Неяк у свой інстытут я запрасіў Ніла. Колькі было тады прачытана вершаў, напісана аўтографаў на ягоных кнігах! Дарэчы, у сваёй бібліятэцы я маю ўсе кнігі Гілевіча. Роўна 100 з іх з аўтографамі. Часам перачытваю і дзіўлюся – ён ні разу не паўтарыўся! Ёсць і вершаваныя надпісы. Напрыклад: *«Яўген Дзянісавіч Стасевіч / не з тых, хто любіць серабро, / а з тых, хто ў душах бліжніх сеюць / пяшчоту, ласку і дабро. /Тады я быў бы салапякам, / калі б у дзень народзін твой / не выпіў чарку з добрым гакам, / каб Бог сто год быў над табой!»*

**– Шыкоўны аўтограф! Цяпер я разумею, чаму вы ўсе гілевічаўскія дарчыя надпісы сабралі і выдалі асобнай кніжкай. Але самая вядомая ваша кніга – «Хто ты, Вядзьмак-Лысагорскі?». Прызнайцеся, вы напісалі яе з падказкі Гілевіча?**

– Нічога ён мне не падказваў. Ён і мне не прызнаваўся, што Вядзьмак – гэта ён. Я аддаў гэтай тэме чатыры гады жыцця, надрукаваў з дзясятак артыкулаў у розных выданнях. Каго толькі крытыкі ні залічвалі ў аўтары знакамітага «Сказа пра Лысую Гару»! І Рыгора Барадуліна, і Анатоля Вялюгіна, і Міколу Аўрамчыка, і Петруся Макаля, і Анатоля Астрэйку… І толькі мы з нябожчыкам Янусем Мальцам настойвалі, што Вядзьмак-Лысагорскі – гэта Гілевіч.

**– Як вы лічыце, чаму ён так доўга не прызнаваўся?**

– Я не аднойчы падгаворваў Ніла да гэтага. І бачыў, што яму хацелася… Але жонка, Ніна Іванаўна, была рашуча супраць. Казала: «Тады цябе проста жыўцом з'ядуць!» І праўда, у паэме шмат хто пададзены не з лепшага боку. А для мяне было відавочна, што ў рамана ў вершах «Родныя дзеці» і паэмы «Сказ пры Лысую Гару» аўтар адзін. А Гілевіч, помню, кажа: «А ты дакажы». Што ж, я чалавек упарты, у жыцці за што ні браўся, усё даводзіў да канца. Патраціў чатыры гады і даказаў. А праз год, у 2003 годзе, Ніл на старонках «Народнай Волі» расставіў усе кропкі над «і». Але ж і тут сёй-той захацеў прымазацца…

**– Вы маеце на ўвазе Міколу Аўрамчыка? Лічыце, што ён не меў ніякага дачынення?**

– Так, яго. Бо ён і пасля прызнання Гілевіча працягваў выказваць прэтэнзіі на аўтарства «Сказа…». Ну, якое дачыненне… Ён пастаўляў Нілу факты з Лысай Гары: як там пісьменнікі будаваліся, чым свае соткі ўгнойвалі. А яшчэ – друкаваў паэму на сваёй машынцы, размнажаў і дасылаў па розных адрасах. Вось і ўсё. Але чамусьці лічыў сябе суаўтарам і нават Максіму Танку пра гэта гаварыў. Але прысвоіць чужы твор – як адабраць у кагосьці кавалак хлеба.

**– Ну, на кавалак хлеба ў Беларусі ўжо даўно літаратурай не заробіш. Наадварот беларускім пісьменнікам даводзіцца выдавацца за ўласныя сродкі. Вось і Ніл Гілевіч збор твораў у 23 тамах выдаў за сваю пенсію. Дарэчы, там на адным з тамоў – падзяка вам за дапамогу.**

– Калі выйшлі першыя два тамы, і я пабачыў, у якое становішча пастаўлены народны паэт (а пенсія ў яго была зусім невялікая), то вырашыў дапамагчы. Ну, у мяне нейкая капейчына ў запасе была – з атрыманых ад немцаў марак.

**– Вы ездзілі на заробкі ў Германію?**

– Не, я атрымаў тыя маркі як былы вязень фашысцкіх лагераў. Справа ў тым, што ў 1943 годзе ўсіх мужчын вёскі Шчадроўшчына колішняга Заслаўскага раёна (у тым ліку і мяне з бацькам) немцы вывезлі ў Германію. Мне тады было ўсяго 13 гадоў, падлетак. Спачатку мы былі ў канцлагеры Гросрозен. Напакутаваліся там!.. Відаць, я і пражыў амаль 91 год, бо ў маладосці перажыў цяжкасці вялікія, прайшоў загартоўку. З канцлагера нас завезлі ў горад Заген, на нямецкую біржу працы. І там прадалі за грошы.

**– Як рабоў у сярэднявеччы?**

– Як рабоў. Мяне за 300 марак купіў адзін даволі багаты баўэр, па-савецку яго можна было б назваць кулаком. У яго на гаспадарцы працавалі дзве полькі, француз, украінец ну і я. Горш за усіх баўэр ставіўся да мяне. Я вечна быў галодны. Калі нейкі суп заставаўся ў каструлі, то мне казалі аднесці сабаку. А я выйду, дап'ю той суп і кажу сабаку: прабач, але я таксама галодны... Баўэр быў дэмабілізаваным афіцэрам, параненым на Усходнім фронце. І казаў мне ў вочы, што «калі прыйдуць рускія, то заб'юць мяне, але спачатку я заб'ю цябе». Божа ты мой!.. Я чакаў свабоды і – чакаў сваёй смерці. Урэшце нас вызвалілі савецкія войскі, гаспадар уцёк, не паспеўшы ажыццявіць сваю пагрозу.

**– Вось якім чынам былі заслужаны тыя маркі. А хіба яны не прыдаліся б вашай сям'і?**

– Прыдаліся б і сям'і, але я вырашыў аддаць іх Гілевічу. Мы скаліся з сябрам Аляксандрам Барсуковым і цалкам заплацілі за выданне трэцяга тома. А рэшту марак я патраціў на Нілаў партрэт, які ён не мог выкупіць у мастака.



Той самы партрэт мастака М.Моўчана.

**– Партрэт, які вісіць у вас на сцяне?**

– Гэта фотакопія. Арыгінал у Гілевічавай кватэры. А было так. Неяк Ніл у размове прызнаўся, што мастак Міхаіл Моўчан напісаў яго партрэт. Ён яму падабаецца, але няма за што выкупіць… Пайшоў я да таго мастака ў майстэрню, а там цэлая галерэя партрэтаў – і Васіль Быкаў, і Максім Танк, і Сяргей Грахоўскі, і Іван Чыгрынаў… Партрэтаў дваццаць стаіць, і ніхто не забірае – таксама грошай няма. Моўчан пытаецца: «Хто вас цікавіць?» – «Гілевіч». – «А кім вы яму будзеце?» – «Сябрам». – «О, вы першы сябра, які зацікавіўся. Я для вас скідку зраблю. Забірайце за 200 долараў».

**– А які на той час у вас заробак быў?**

– Я тады ўжо быў на пенсіі, атрымліваў долараў дваццаць-трыццаць. Купіў я той партрэт, прынёс да Гілевіча, паставілі мы яго на крэсла, глядзім і любуемся. Зайшла і паэтава жонка, паглядзела на мяне і кажа: «Божачка, няўжо яшчэ ёсць на свеце такія людзі?!» Нават у шчаку мяне пацалавала. І Ніл потым прызнаўся, што той партрэт – найлепшы падарунак, які ён атрымаў у жыцці.

**– Аднойчы мне пашчасціла апынуцца ў застоллі, дзе былі Янка Брыль з Нілам Гілевічам. Як яны спявалі дуэтам! А калі вы на гармоніку ігралі, напрыклад, «Вы шуміце, бярозы», Ніл Сымонавіч падпяваў?**

– Не, ён свае песні не спяваў, толькі народныя. І жонка яму падпявала, таксама галасістая была. І сёння помню, як яна заводзіць (*спявае*): *«Ой, аралі хлопцы ніву, / паламалі ярмо. / Хадзіў хлопец да дзяўчыны, / толькі хадзіў дармо...»* А калі я пачынаў «Вы шуміце…», «Я хаджу закаханы ў твае краявіды» ці «Студэнтачку», Ніл замаўкаў і толькі слухаў. А сустракаліся мы часта, бывала, па некалькі разоў на тыдзень. І нам заўсёды было весела і цікава.

**– У вас на сцяне толькі два партрэты – Пушкіна і Гілевіча. Вы іх поруч ставіце?**

– Вы ведаеце – стаўлю! Ніл Гілевіч для мяне паэт такога ж маштабу, як і Пушкін. І нават больш, паколькі ён свой, беларускі. Таму я іх разам і павесіў. Гілевіч – з'ява незвычайная, дагэтуль па заслугах не ацэненая. Яму па жыцці больш зайздросцілі, чым аддавалі належнае. Ён жа не толькі паэт, але і драматург, фальклярыст, эсэіст, празаік, літаратуразнаўца, сатырык, перакладчык. Няма такой славянскай літаратуры, якою б ён не цікавіўся, не перакладаў. Адных балгарскіх паэтаў – цэлы том атрымаўся. Ніхто з беларускіх паэтаў столькі не зрабіў у міжнародным маштабе, як Ніл.

**– Гады два таму «Народная Воля» па вашай ініцыятыве друкавала адкрыты ліст дзеячаў беларускай культуры да мінскіх улад з прапановай ушанаваць памяць Ніла Гілевіча. У адказ – нуль увагі. Вы маеце надзею ўсё ж пабачыць у Мінску вуліцу Ніла Гілевіча?**

– Пакуль жыву – спадзяюся. Ну хоць бы мемарыяльную дошку хай бы павесілі на доме, дзе ён жыў: вуліца Маркса, 36. Ну слухайце, усе народныя пісьменнікі маюць па вуліцы – і Пімен Панчанка, і Янка Брыль, і Максім Танк… А ў Гілевіча ні вуліцы, ні дошкі. Так нельга. Я перакананы, што з цягам часу ўсё з'явіцца, але, думаю, не пры гэтай уладзе. Яна замоўчвала Гілевіча пры жыцці, працягвае замоўчваць і цяпер. А я дзякую Богу за тое, што ён узнагародзіў мяне такім сябрам – таленавітым і сардэчным – на ўсё жыццё.

**Міхась СКОБЛА.**

